«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
*Якуб КОЛАС*

№ 70 (4630)

14 верасня 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

**Вялікі дзякуй усім, хто падтрымлівае «Народную Волю» ў гэты надзвычай цяжкі час.**
*Рэдакцыя.*

БЕЗ РОЗОВЫХ ОЧКОВ

Александр КЛАСКОВСКИЙ,
политический обозреватель

## Беларусь оказалась в заколдованном круге

Александр Лукашенко любит военный антураж, суровые игры людей в погонах. И часто использует такие мероприятия для заявлений в духе «Красная армия всех сильней». В воскресенье, посещая Обуз-Лесновский полигон, где развернулись учения «Запад-2021», он козырнул перспективой новых вооружений, а также заявил, что не собирается становиться на колени перед Западом. Который, по его версии, не прекращает гибридной агрессии «в отношении Беларуси и России».

Показательно это желание притянуть Россию к своему конфликту с Западом. Хотя на самом деле Евросоюз и США, ранее как раз-таки заигрывавшие с Минском, просто были вынуждены отреагировать на скандал с выборами 2020 года, когда были жестоко подавлены протесты белорусов, посчитавших, что их голоса украдены.

На полигоне Лукашенко заявил, что Беларусь планирует закупить российского вооружения более чем на миллиард долларов. Это звучит круто, особенно для уха обывателя-дилетанта.

Но, насколько можно понять, речь идет о закупках на период до 2025 года. Если миллиард размазать на пятилетку, получается 200 миллионов долларов в год. Не так уж много, если учесть, что один дивизион С-400 стоит на рынке 500–600 миллионов долларов.

К тому же, как отмечает военный эксперт Александр Алесин, фактически речь идет об уже заключенных и реализуемых контрактах на поставку истребителей Су-30СМ (получено четыре из 12), эскадрильи вертолетов Ми-35М (к слову, эскадрилья – это 12 машин, а не «десятки»), ЗРК «Тор-М2». То есть на самом деле – ничего сенсационного.

С Западом же, как заявил Лукашенко на полигоне, Беларусь не будет разговаривать, пока не будут сняты санкции. При этом назвал их бездейственными. Но если они не действуют, зачем так настойчиво требовать отмены?

Отметим, что введенные в июне ограничения на импорт в ЕС белорусских нефтепродуктов и хлористого калия не касаются текущих контрактов, поэтому санкции Брюсселя имеют отложенный эффект. Они ударят по-настоящему, когда эти контракты истекут, то есть в начале следующего года.

И как бы белорусское начальство ни бравировало, санкции его напрягают. И по этой причине, и чтобы иметь маневр в условиях, когда Москва прижимает углублением интеграции через союзные программы, режиму было бы весьма кстати завязать некий диалог с Западом.

Другое дело, что за последний год дров в отношениях с ЕС и США наломано сверх всякой меры. В свою очередь, Запад объявил Лукашенко нелегитимным, оказался в колее усиления санкций, из которой трудно выскочить без потери лица.

Еще одна проблема заключается в том, что белорусскому руководству гораздо труднее решиться на откручивание гаек в стране, чем в периоды прежних циклов ссор и замирений с Западом. В августе прошлого года Лукашенко получил мощнейшую психологическую травму, был шокирован масштабом протестов.

При этом кризис и сегодня не разрешен. Противники режима просто сжали зубы. И наверху боятся, что малейшее послабление спровоцирует новое восстание масс. Беларусь оказалась в заколдованном круге.

ДУРНОЦЦЕ

## Бутафорская Хатынь у Гомелі

*Ці не паедуць па ўсёй Беларусі перасоўныя «брацкія магілы»?*

Нездарма ў народзе спрадвеку казалі: каго Бог вырашыў пакараць, у таго адбірае розум. Упэўнены, што гэту прыказку згадвалі многія гамяльчане ў мінулыя выхадныя, калі ў горадзе над Сожам адзначаўся дзень горада. Уявіце сабе: вы пасля добрага застолля з сябрамі (свята ж!) выбраліся на шпацыр на набярэжнай. Ідзяце сабе, песні спяваеце. І раптам ваш шлях перагароджвае… брацкая магіла! Так, так, брацкая магіла. Проста на ходніку. Мармуровыя пліты з эпітафіямі, піянеры ў ганаровай варце стаяць. Праўда, вечны агонь, гэта адразу відно, несапраўдны, языкі полымя з чырвонай тканіны. Тысячы людзей (месца там шматлюднае) спыняюцца, няўцямна абыходзяць тую «магілу». Адкуль яна ўзялася, дзеля чаго?

Аказваецца, такім «крэатыўным» спосабам гомельскія чыноўнікі вырашылі ўшанаваць памяць ахвяраў фашызму. Прыдумалі перасоўную (!) брацкую магілу. З надмагіллямі-муляжамі і бутафорскім вечным агнём. Збіраецца-разбіраецца за пяць хвілін.



Хтосьці пакруціць пальцам ля скроні і скажа: дурдом. А хтосьці зірне на «вынаходніцтва» практычна. Гэта ж колькі бюджэтных грошай можна зберагчы! Скажам, на Гомельшчыне сотні дзве мясцовых мемарыялаў. Іх жа трэба даглядаць, рамантаваць, граніт у Мікашэвічах купляць. А вось і не трэба! А трэба тыя мемарыялы прыбраць, а замест іх па святах прывозіць гомельскі перасоўны. Сабралі-склеілі, мясцовых піянераў гукнулі, памітынгавалі і далей паехалі па гарадах і вёсках...

На перасоўнай брацкай магіле чыноўнікі не спыніліся. На недалёкай плошчы гамяльчан і гасцей горада чакала бутафорская… Хатынь. З бутафорскімі комінамі, на якіх віселі бутафорскія званы. Большага дзікунства, большага глумлення, большага дурноцця і прыдумаць немагчыма.

Калі б жылі стваральнікі сапраўднай Хатыні, напэўна, яны падалі б у суд на гомельскіх «крэатыўшчыкаў». Адзін з аўтараў мемарыяльнага комплексу, Леанід Левін, прыгадваў ва ўспамінах, як у свой час галоўны ўзбекскі камуніст Рашыдаў прапаноўваў яму зрабіць копію беларускай «Хатыні» для Бухары. Грошай даваў – у дваццаць разоў больш, чым пайшло на будаўніцтва комплексу на Лагойшчыне. І Левін рашуча адмовіўся – хатынская трагедыя капіраванню не падлягае!

У Гомелі – падлягае. Прычым капіраванню звыродліваму і глумліваму. Старшыні Гомельскага гарвыканкама **Пятру Кірычэнку** павінна быць сорамна за такія «помнікі». Нават не выпадае і пытацца, ці стукае ў яго чыноўніцкае сэрца попел Хатыні. Яно, мне думаецца, яўна глухое і сляпое, тое сэрца.

А можа, усё гэта зроблена па камандзе зверху? І неўзабаве па ўсёй Беларусі паедуць перасоўныя «брацкія магілы»?

**Міхась ЗАДАРОЖНЫ.**

НУ І НУ!

## Русіфікацыя камянёў-помнікаў у Полацку

Славуты Барысаў камень, што ляжыць каля полацкай Сафіі на стромым беразе Дзвіны, важыць каля 50 тон. Са дна ракі яго спрабавалі дастаць яшчэ дзвесце гадоў таму, за вяроўкі цягнулі трыста чалавек, але з месца не зрушылі. З задачай справіліся – ужо ў 1981 годзе – вайсковыя цягачы і пад'ёмныя краны, праўда, стары полацкі мост пад каменнай аграмадзінай падазрона захістаўся, давялося везці камень ажно праз Наваполацк. Камень той – гэткі ж унікальны помнік айчыннай гісторыі, як і Сафійскі сабор, як і ўсталяваны непадалёк помнік «Калыска беларускай дзяржаўнасці». Ён унесены ва ўсе адпаведныя рэестры і знаходзіцца пад абаронай дзяржавы, якую ў Полацку сёння прадстаўляе старшыня райвыканкама **Ігар Марковіч**.

Яго папярэднікі, хоць і не ўсе, пэўным чынам засталіся ў гісторыі горада. Хтосьці той самы Барысаў камень усталёўваў, хтосьці помнікі Скарыну і літары «Ў» ставіў, а хтосьці галоўнай полацкай вуліцы імя Еўфрасінні Полацкай вярнуў. Ігару Марковічу, відаць, таксама захацелася дакрануцца да вечнасці. А вечнасць для яго што? Тысячагадовы надпіс на камені-помніку: «Госпадзі, дапамажы рабу свайму Барысу». І вырашыў Марковіч той камень, а з ім яшчэ пяць камянёў-помнікаў, пераназваць. Быў, напрыклад, *«Вялікі камень Бікульніцкі»*, а стаў *«Большим камнем Бикульницким»*. Пад гэткую ж русіфікацыю падпалі і той жа Барысаў камень, і Пярун-камень Полацкі, і Вялікі камень Глінскі… Полацкі райвыканкам нават прыняў адпаведную пастанову №1794 «Аб перайменаванні…», заадно параздаваўшы тыя камяні каму прыйшлося. А якая з іх карысць? На гравій жа не патаўчэш…

Такім чынам Пярун-камень перайшоў пад апеку сельгаспрадпрыемства «Блізніца», Бікульніцкі і Туржэцкі атрымала ў падарунак гаспадарка «Палімір-агра», Косараўскі камень мусіла ўзяць на свой баланс «Віцебскэнерга», а Глінскі дастаўся эксперыментальнай базе «Ветрынская».

Цікава, што рабіцьмуць з такімі неспадзеўнымі прэзентамі новыя гаспадары? Аграрнікі, відаць, будуць вадзіць вакол камянёў карагоды на дажынкі, энергетыкі – правяраць іх на трываласць маланкамі, а ў Ветрыне зладзяць які-небудзь эксперымент.

Зрусіфікаваўшы камяні, за якімі тысячагоддзе беларускай мінуўшчыны, **Ігар Марковіч** наўрад ці застанецца ў гісторыі. Трэба ўтварыць нешта больш паскуднае. Ну, напрыклад, узяць зубіла і ўласнаручна па старажытным надпісе князя Барыса выбіць свой накшталт: *«Здесь был Игорь, ненавидевший беларускую мову»*. Вось тады дакладна яго чакае сумнеўная герастратава слава. А іншай полацкі чыноўнік, як выглядае, і не заслужыў.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

### Хто такі Ігар Марковіч?



***Ігар Іванавіч Марковіч*** *нарадзіўся ў 1960 годзе ў в. Ніжняе Фаміно Верхнядзвінскага раёна. У 1982 годзе скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію па спецыяльнасці «Механізацыя сельскай гаспадаркі». У 2009 годзе – Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь па спецыяльнасці «Дзяржаўнае і мясцовае кіраванне».*

*Працоўную дзейнасць пачаў у 1982 годзе ў саўгасе «Дрысенскі» Верхнядзвінскага раёна, дзе працаваў інжынерам-механікам, інжынерам па тэхніцы бяспекі і арганізацыі пажарнай аховы, загадчыкам майстэрань, галоўным інжынерам. З 1987-га па 1990 год – інструктар сельскагаспадарчага аддзела, затым інструктар арганізацыйнага аддзела Верхнядзвінскага райкама КПБ Віцебскай вобласці. У 1990 годзе ўзначаліў Верхнядзвінскае КУП па вытворча-тэхнічным абслугоўванні раённага аграпрамысловага аб'яднання Віцебскай вобласці. З 2003 года – гендырэктар ААТ «Верхнядзвінскі райаграсэрвіс». У сакавіку 2007 года прызначаны старшынёй Верхнядзвінскага райвыканкама.*

*Са снежня 2019 года – старшыня Полацкага райвыканкама.*

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ

Елена МОЛОЧКО

## Еще одного дирижера Большого театра грубо задвинули

Большой театр снова сотрясает некрасивый конфликт. Но, по правде говоря, уже ничему не удивляешься, когда узнаешь о новых скандалах в труппе. Престиж театра сильно потрепали увольнения артистов, в том числе лучших, знаменитых. Да, те, кто сегодня у власти, резко и жестко взялись за искусство. Не ради искусства. Просто чистят ряды, оставляя лишь верноподданных и молчаливых.

Но новый конфликт я назвала бы морально-нравственным. К политике он имеет отношение опосредованное – как пример наплевательского отношения к людям в принципе. Официально назначенного на новую постановку оперы Сен-Санса «Самсон и Далила» талантливого дирижера **Дмитрия МАТВИЕНКО** вдруг снимают со спектакля. Причем сам маэстро сейчас находится на гастролях в Европе и узнает об этом решении, что называется, окольными путями.

Возможно, его ввели в заблуждение? Вроде бы официальный документ еще не подписан… Но откровенное неудовольствие плотным гастрольным графиком маэстро уже высказано на высоком административном уровне Большого театра. И устно все точки над «і» расставлены. Новой постановки ему не видать.

Дирижер испытывает сильнейший шок: его лишают работы, в которую он уже достаточно глубоко погрузился. Чем он провинился? Шесть месяцев партитура лежит на его рабочем столе, уже разработана концепция постановки, продуманы нюансы (ведь новый спектакль начинается задолго до того, как певцы соберутся на сцене). Кстати, за личные деньги куплен для театра нотный материал оперы – это дорогое приобретение, а за него (за определенную часть) теперь отказываются платить, хотя ранее обещали… Как назвать такое отношение к очень хорошему дирижеру?

Надо сказать, что параллельно с работой в Большом Дмитрий Матвиенко делает блестящую личную исполнительскую карьеру. Он часто и с успехом, как я говорила, гастролирует за рубежом. Он известен, его приглашают. А три месяца назад Д.Матвиенко победил на очень престижном международном конкурсе молодых дирижеров имени Николая Малько в Дании. Это открыло перед ним двери лучших европейских концертных залов, широкие перспективы для творчества. Не преувеличу, если скажу, что молодой маэстро прославился. Журналисты не прошли мимо этого события, и всякий раз на вопрос, уедет ли теперь он, молодой и знаменитый, из Беларуси, Матвиенко отвечал твердым «нет». Он хочет работать в белорусском Большом.

А белорусский Большой смотрит на него с высокомерным прищуром. Ты дирижируешь в Италии? Тебя ждут в Монте-Карло и Мюнхене? Ну, тогда в родном Минске ты просто постоишь в очереди к пюпитру. Может быть, дадут к Новому году детский «Терем-Теремок».

Что и говорить, недальновидная политика у нового директора Большого театра **Вячеслава Гарбузова** – не беречь лучшие молодые кадры. Как помнится, на столичный театральный олимп В.Гарбузова вознесла политическая конъюнктура, именно благодаря ей он, человек из провинции, поставлен во главе огромного прославленного коллектива. Но самостоятелен ли директор в своих решениях? Компетентен ли? Любит ли вообще музыкантов? Понимает ли их бесконечно трудную судьбу? Я вот сомневаюсь…

В общем, Матвиенко грубо задвинули. И маэстро обиделся. Заявил о своем увольнении из Большого театра, написав в социальных сетях: «Считаю эти поступки в высшей степени подлыми и не вижу возможности дальнейшего пребывания в этом театре».

Примерно два десятилетия назад точно так же в Большом театре избавлялись от **Александра Михайловича Анисимова.** Причем он в то время занимал позицию главного дирижера оркестра, то есть был фигурой весомой. Но – ездил на гастроли. Но – успешно работал за рубежом. Получал там премии и аплодисменты. И – выжили дирижера! Не посчитались с талантом и известностью.

Конечно, такая масштабная творческая персона, как народный артист А.М.Анисимов, с музыкального горизонта страны не пропал, много лет маэстро руководит Государственным академическим симфоническим оркестром Беларуси. Публика его обожает. Более того, пришло время – и Анисимова снова пригласили работать в Большой. Так что можно предполагать, что карьера дирижера Дмитрия Матвиенко на этом печальном эпизоде не споткнется, а, напротив, будет и дальше идти только в гору. Он молодой, талантливый, феерично яркий, перспективный, он еще обязательно вернется в Большой театр Беларуси. Мы верим в вас, маэстро!

Народная Воля http://www.nv-online.info 14 ВЕРАСНЯ 2021 г.

БЛІЦ

*Вядомы палітык **Зянон Пазьняк**, які больш за дваццаць гадоў знаходзіцца ў эміграцыі, некалькі дзён таму заклікаў Захад прыпыніць санкцыі ў дачыненні да Беларусі і пачаць перамовы з лукашэнкаўскім рэжымам.*

*«Падзеі выглядаюць так, што ў інтарэсах беларускага народа трэба адмяніць авіяпасажырскую і наземна-транспартную блакаду Беларусі, – заявіў старшыня КХП–БНФ. – Трэба аднавіць сувязі паміж людзьмі і кантакты паміж народамі, камунікацыі з грамадствам.*

*Другое – прыпыніць эканамічныя санкцыі, замарозіць іх (бо санкцыі ўладу дыктатара не зваляць) і ўступіць у перамовы з процілеглым бокам аб спыненні рэпрэсій, катаванняў людзей, аб спыненні пераследу грамадзянскай супольнасці. Яшчэ ёсць час».*

***«Народная Воля» звярнулася да шэрагу палітычных і грамадскіх дзеячаў з пытаннем:***

# ЦІ ЗГОДНЫ ВЫ З ЗЯНОНАМ ПАЗЬНЯКОМ?

### Павел ЛАТУШКА, палітык:



– Я не пагаджуся, што трэба прыпыніць санкцыі, якія быццам бы штурхаюць нас у Расію. Трэба разумець, што Лукашэнка – гэта не гарант незалежнасці Беларусі. Якая дзяржаўнасць, незалежнасць і суверэнітэт, калі ўсё завязана на адну асобу і на яе жаданні? Гарантыі незалежнасці забяспечваюць людзі, якія жывуць у краіне, – народ. Мы ўсе, беларусы, разам – гарантыі суверэнітэту. Толькі ад нас і нашых дзеянняў залежыць, ці будзе далей існаваць наша краіна і ў якім выглядзе і статусе.

Максімальныя гарантыі незалежнасці – гэта дэмакратычныя змены, гэта калі лёс краіны вырашаюць самі людзі. Калі штосьці ці хтосьці і ўпіхвае нас у Расію, то толькі рэжым, а не санкцыі.

Ранейшая гісторыя паказала, што толькі санкцыі прымушалі дыктатара вызваліць палітзняволеных. Санкцыі – гэта адказнасць за гвалт над дзясяткамі тысяч беларусаў і інструмент, каб прымусіць выканаць усе патрабаванні беларусаў.

### Алег ГАЙДУКЕВІЧ, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі па міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі:



– Я заўсёды лічыў Пазьняка сваім палітычным праціўнікам, але, як бачым, ён куды разумнейшы за ўсіх разам узятых лідараў новай апазіцыі.

Пазьняк правы ў тым, калі кажа, што заходнія санкцыі нічога ў краіне не зменяць. Увесь ціск, які зараз ёсць, прывядзе толькі да таго, што Беларусь будзе весці яшчэ больш жорсткую барацьбу з гэтымі санкцыямі, і мы станем больш моцнымі. Ніхто нас не нахіліць, не паставіць на калені і ніякіх датэрміновых выбараў не будзе. Не будзе ніякіх саступак Захаду з-за эканамічнага і санкцыйнага ціску. Гэта тупіковы шлях.

І Расію ніхто не зацісне, і Беларусь. А ў нас саюз. Яшчэ больш узмацнім інтэграцыю з захаваннем суверэнітэту, і нічога ў Захаду не атрымаецца. Больш за тое – Еўропа і ЗША мараць патрапіць на расійскі рынак, і ніколі эканамічныя стасункі з Еўрасаюзам не спыняцца. А Літва ў Еўрасаюзе нічога не вырашала і не будзе вырашаць.

Што датычыцца магчымых перамоў з уладамі, пра што таксама кажа Пазьняк, то іх няма з кім весці. З Захадам мы гатовы размаўляць на роўных, няхай адмяняюць санкцыі і садзяцца за стол перамоў. А са збеглай апазіцыяй нікіх перамоў ніколі не будзе.

Больш за тое! Як дэпутат, хачу сказаць, што такі дыялог ужо ідзе. І будзе ісці.

### Аляксандр ДАБРАВОЛЬСКІ, дарадца экс-кандыдата ў прэзідэнты Святланы Ціханоўскай:



– Пры ўсёй маёй павазе да Зянона Пазьняка, тое, што ён прапануе зараз, на мой погляд, нерэалістычна і памылкова.

Дыялог прапаноўваецца ўжо даўно, але Лукашэнка на яго не ідзе. З таго боку дзверы зачынены, і толькі моцны ціск прымусіць яго пайсці на перамовы. Адмовіцца ад ціску – гэта проста падзякаваць рэжыму за тое, што ён робіць, і больш нічога. Без санкцый ніякіх саступак не будзе.

### Васіль ШЛЫНДЗІКАЎ, экс-кіраўнік прадпрыемства «Амкадор», дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання:

– Было б лагічна, калі б нейкія перамовы пачаліся, бо не думаю, што Захад пойдзе на адмену санкцый да таго, як адбудзецца пэўны дыялог.

Пазьняк кажа, што санкцыйны ціск з большай сілай кідае Беларусь у абдымкі Масквы, што ёсць пагроза страты незалежнасці, але трэба разумець, што з такім агрэсіўным суседам такая пагроза будзе заўсёды. Нічога не зменіцца ад таго, будуць выкананы рэкамендацыі Пазьняка альбо не.

І ўвогуле, думаю, у бліжэйшы час Захад не будзе адмяняць санкцыі.

### Андрэй САВІНЫХ, старшыня Пастаяннай камісіі па міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі:



– На мой погляд, Зянон Станіслававіч дэманструе здаровы сэнс і свае патрыятычныя пачуцці ў дачыненні да Беларусі, калі кажа пра аднаўленне авіяпасажырскіх зносін і адмену санкцыйнага ціску.

З іншага боку, Зянон Пазьняк зусім не разумее тых працэсаў, якія адбываюцца ў нашай краіне, калі кажа пра рэпрэсіі. Ён вельмі памыляецца, калі лічыць, што беларускія ўлады, якія дзейнічаюць у поўнай адпаведнасці з заканадаўствам, будуць весці на гэтую тэму перамовы з нейкімі знешнімі цэнтрамі сілы. Гэта ўнутраная суверэнная справа Рэспублікі Беларусь.

### Мікалай КАЗЛОЎ, лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі:

– Мне падаецца, што рэжым знаходзіцца ў такой сітуацыі, што ён ні з кім не гатовы весці перамовы, а адзіны інструмент, які ў яго ёсць, – гэта рэпрэсіі. І санкцыі на гэта ніякім чынам не ўплываюць. Рэпрэсіі будуць ці з санкцыямі, ці без іх.

### Тэнгіз ДУМБАДЗЭ, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі па міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі:



– Я падтрымліваю Пазьняка ў частцы таго, што санкцыйную блакаду патрэбна зняць. Згодны і з тым, што патрэбны дыялог, а ён заўсёды магчымы.

Напэўна, усе мы разумеем, што тыя працэсы, якія адбываюцца ў нашай краіне, гэта найперш наша ўнутраная справа. Калі бяда прыйшла ў наш дом, то вырашыць праблему можна толькі ў сябе дома.

Патрэбна менш нянавісці, злосці, трэба мудра шукаць шляхі да дыялогу. Але толькі не супрацьзаконнымі мерамі. Я заўсёды на баку закона і таго, што прыносіць карысць Беларусі, таму і сам магу далучыцца да перамоўнага працэсу.

### Андрэй ДЗМІТРЫЕЎ, адзін з лідараў кампаніі «Гавары праўду»:



– Я лічу, што санкцыі планаваліся як адзін са шматлікіх інструментаў еўрапейскай палітыкі і стратэгіі ў дачыненні да Беларусі, але ў выніку сталі, напэўна, адзіным інструментам, які Захад мае. У такім выглядзе гэта малаэфектыўна, і, безумоўна, цяжка сказаць, ці прынясуць санкцыі жаданых вынікаў.

Як мне падаецца, галоўным дасягненнем мінулага года з'яўляецца змена грамадскай свядомасці і змена самога беларускага грамадства. Сёння Еўрасаюз павінен максімальна падтрымліваць беларусаў, а санкцыі, мякка кажучы, гэта крыху з іншай оперы.

Што датычыцца пазіцыі Зянона Пазьняка, то яна мне абсалютна зразумелая. Я – чалавек, які працягвае жыць у Беларусі і бачыць, што тут адбываецца. Ці шмат беларусаў вераць у тое, што новы пакет заходніх санкцый, які рыхтуецца, нешта зменіць? Не думаю.

Захад сёння павінен быць скіраваны на тое, каб падтрымаць беларускі народ.

### Аляксандр ЯРАШУК, старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў:



– Калі Зянон Пазьняк кажа пра адмену санкцый, то ў чымсьці ён мае рацыю. Мы, як арганізацыя, што аб'ядноўвае рабочых, таксама не можам заклікаць да санкцый, бо гэта супярэчыць самой ідэі аб'яднання. Мы змагаемся за захаванне працоўных месцаў, добрыя заробкі, а санкцыі нясуць пагрозу мэтам, якія закладзены ў ідэю прафсаюзнага руху.

Што датычыцца перамоў, то да дыялогу заклікаюць многія вядомыя дзеячы краіны. І я іх падтрымліваю. Сёння няма альтэрнатывы дыялогу, такія сігналы павінны штодзень дасылацца «Чырвонаму дому». Іншае пытанне: ці пойдзе рэжым на перамовы?

**Апытанне правodзіў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

# Кузнечики год живут в посольстве Швеции

***Ровно год назад жители Витебска Виталий и Владислав Кузнечики перелезли через забор шведского посольства в Минске, скрываясь от милиции и надеясь получить политическое убежище. Всё это время они живут в посольстве.***

***«Если бы мы знали, что надолго всё затянется, продумали бы другой вариант», – признаются спустя год укрывшиеся в посольстве витебляне.***

***Решается ли ситуация отца и сына и как организован их быт?***



**Виталий** и **Владислав Кузнечики** хотели попросить политическое убежище у Швеции, так как, по их словам, их преследовали силовые органы за участие в акциях протеста. 11 сентября 2020 года в посольстве Швеции в Минске им отказали, так как дипломатическое ведомство не отвечает за эту процедуру. Тогда мужчины перелезли через забор и остались на территории диппредставительства.

В тот же день рядом с посольством дежурили представители органов внутренних дел Беларуси и неизвестные в масках. Силовики просили посольство выдать им спрятавшихся на территории диппредставительства белорусов, но этого не произошло. Позже стало известно, что против Кузнечиков возбуждено уголовное дело по статье 364 УК (насилие либо угроза применения насилия в отношении сотрудника органов внутренних дел).

### «Дети скучают и в каждый наш разговор спрашивают, когда мы приедем домой»

Напрямую с журналистами Кузнечики не общаются. Об их быте знает адвокат **Вадим Дроздов.**

– *Тут есть все условия для жизни: стиральная машина, мультиварка, холодильник, посуда, душ, туалет. Есть турник, эспандеры для занятий спортом. Мы сами готовим себе еду, и это большой плюс – так время идет быстрее. А продукты, которые нужны, нам покупают. На свежий воздух выходим в любое время. Здесь не разрешены телевизор и компьютер. Но мы пользуемся смартфоном, который был у нас с собой,* – передает слова Владислава представитель Кузнечиков.

Несмотря на отсутствие интернета, отец и сын следят за событиями в стране.

– *Невозможно поверить, что такое вообще может происходить. Что сказать, иногда не до законов. Только продолжаться вечно это не может,* – комментирует Владислав.

Больше всего, говорит, не хватает встреч с детьми (их у него двое), с семьей. Связь с близкими только по телефону и иногда по видеосвязи.

– *Тут думаешь и переживаешь не столько за себя, сколько за детей, семью – чтобы они ни в чем не нуждались. Дети скучают и в каждый наш разговор спрашивают, когда мы приедем домой. Конечно, финансово семье тяжело, ведь зарабатыванием денег занимался я. Родным тяжело и физически, и финансово без нашей помощи, но в целом держатся. Чувствую ответственность за них, и больно, что ничем помочь не могу.*

Ранее Владислав перенес рак, после которого должен проходить обследование каждый год. В 2020-м он не успел это сделать до событий, которые привели его в посольство Швеции. Сейчас вопрос с медицинским обследованием тоже не решается: посольство говорит, что не имеет права его организовать, а представитель Кузнечиков обратился в Комитет против пыток, чтобы уточнить, положено ли такое обследование в его положении.

– *Вернувшись на год назад в ситуацию с отцом, когда его избивали, поступить по-другому мне не позволила бы совесть, так же, как и не ходить на протесты. Но если бы мы знали, что с посольством так надолго это всё затянется, конечно, продумали бы другой вариант. Не факт, что он был бы лучше,* – рассуждает Кузнечик-младший.

Идеальным выходом из сложившейся ситуации мужчины видят возможность жить в своей стране и быть спокойными за будущее своей семьи.

– *Это будет возможно, когда в стране пройдут новые честные выборы и вернется закон,* – считает Владислав.

### Как движется процесс о получении политического убежища

В прошлом году представитель интересов Кузнечиков адвокат Вадим Дроздов от их имени обратился в Комитет против пыток.

– *В обращении мы утверждали, что если заявители будут задержаны властями Беларуси, то они столкнутся с реальной угрозой подвергнуться пыткам. Если задержание произойдет в результате действий или бездействия властей Швеции, то Швеция нарушит свои обязательства по статье 3 Конвенции против пыток,* – указывает юрист в описании дела на своем сайте.

По жалобе Кузнечиков комитет принял решение о временных обеспечительных мерах, то есть попросил правительство Швеции не передавать отца и сына властям Беларуси до окончательного решения.

6 августа секретариат Управления Верховного комиссара ООН по правам человека (УВКПЧ) сообщил адвокату мужчин Вадиму Дроздову, что рассмотрение их жалобы запланировано на предстоящей сессии Комитета против пыток в ноябре 2021 года.

Кузнечики могут находиться на территории посольства как минимум до вынесения Комитетом решения о приемлемости применения обеспечительных мер, а в случае, если Комитет посчитает, что их жалоба приемлема, то и до ее рассмотрения по существу, отмечает юрист.

Вопрос о предоставлении политического убежища или какого-либо иного статуса отцу и сыну остается за правительством Швеции. За год он так и не решился.

Уголовное дело против Кузнечиков еще открыто. В материалах дела говорится, что Виталий и Владислав *«с целью воспрепятствования законной деятельности сотрудников органов внутренних дел применили насилие в отношении сотрудника органов внутренних дел Федотова Д.И. и иных неустановленных сотрудников органов внутренних дел, причинив последним телесные повреждения, побои и физическую боль»*, сообщает их адвокат.

– *Нам не известно, как следствие определило наличие телесных повреждений, побоев и физической боли у сотрудников внутренних дел, которые следствием не установлены,* – отмечает представитель витеблян.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
14 ВЕРАСНЯ 2021 г.

СПАДЧЫНА

# «Наш сцяг тапталі і нішчылі, а ён жыве»

## Апошняе інтэрв'ю гісторыка Уладзіміра Ляхоўскага

*Гэтае інтэрв'ю з **Уладзімірам Ляхоўскім** было запісана некалькі месяцаў таму, і мы дамовіліся апублікаваць яго пры нагодзе чарговай атакі на бел-чырвона-белы сцяг. На жаль, 7 верасня сэрца знакамітага гісторыка перастала біцца. Ён сышоў у нябыт на 58-м годзе жыцця. Але ў памяці і на дыктафоннай стужцы засталіся яго глыбокія разважанні.*




### Як з'явіўся бел-чырвона-белы сцяг. 7 фактаў

Эскіз белага сцяга з чырвонай стужкай Клаўдыюш Дуж-Душэўскі намаляваў на пачатку 1917 года. За аснову ён узяў колеры «Пагоні».

Яшчэ ўзімку **1917-га** сцяг выкарыстоўвалі толькі беларускія студэнты ў Пецярбургу.

У сакавіку ён стаў галоўным элементам падчас «Дня беларускага значка», калі бел-чырвона-белыя адзнакі, кукарды і сцяжкі можна было пабачыць на вуліцах Мінска.

Сцягі, пашытыя паводле эскіза Дуж-Душэўскага, разаслалі ў мясцовыя арганізацыі.

У жніўні на 1-й сесіі Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый было вызначана, што ўсе вайскоўцы-беларусы павінны насіць бел-чырвона-белую стужку як дадатковы знак адрознення.

У снежні ў Мінску пад бел-чырвона-белымі сцягамі пачаў працу Першы Усебеларускі з'езд.

1918 год – афіцыйны сцяг Беларускай Народнай Рэспублікі.

### «Кампанія супраць нацыянальных сімвалаў пачалася задоўга да вайны»

– У 1922 годзе ў Берліне, за грошы Наркамасветы БССР, быў надрукаваны «Лірнік», гэта збор спеваў Уладзіміра Тэраўскага. У Мінску тады не было друкарскіх магчымасцяў, таму яго надрукавалі ў Берліне. І там была песня «Ваяцкі марш» на словы Макара Краўцова, які тады яшчэ не быў персонай нон-грата ў беларускай савецкай культурнай прасторы. У яго былі такія радкі: *«Штандар наш бел-чырвона-белы / Пакрыў сабой народны рух!»*. І вось у тэксце гэтыя радкі паспелі паправіць на чырвоны штандар. Але ўжо самі ноты не змаглі перайначыць. Там згадка пра бел-чырвона-белы сцяг была замазана чорнай фарбай. Такіх фактаў вельмі шмат. Гэта было табу, каб нідзе не выказвацца пра нацыянальны сцяг.

### «Афіцыйныя гісторыкі заклікаюць абапірацца на факты. Але спачатку іх трэба вывучыць»

– У нас існуюць клішэ і стэрэатыпы па гісторыі беларускага калабарацыянізму перыяду Другой сусветнай вайны. Яны сфарміраваліся ў савецкі час. А пытанні сімволікі ўвогуле не даследаваліся ў савецкія і паслясавецкія часы. Гэта спрабаваў зрабіць Аляксей Літвін у сваёй манаграфіі. І ведаеце, што атрымалася? Амаль два гады яму не зацвярджалі доктарскую дысертацыю. Для іншых гісторыкаў гэта быў урок, што да гэтай тэмы лепш не дакранацца, бо яна не дысертабельная. Афіцыйна гэтая тэма была забаронена. Цяпер афіцыйныя гісторыкі заклікаюць абапірацца на факты. Але спачатку іх трэба вывучыць, каб так смела казаць, што пад гэтым сцягам рабіліся экзекуцыі мірнага насельніцтва.

У 1989 годзе ў газеце «Звязда» адбыўся «круглы стол» наконт пытання нацыянальнай сімволікі, які вёў Валянцін Жданко. Там самым дасведчаным чалавекам у гэтым пытанні быў геральдыст Анатоль Цітоў, які не так даўно пакінуў нас. Пра 1920-я і пазнейшыя гады, пра выкарыстанне нацыянальнай сімволікі ён ведаў больш, чым і Літвін, і Сташкевіч, і іншыя больш масцітыя па сваіх званнях гісторыкі. Бо толькі зараз пачынаецца сур'ёзнае вывучэнне тэмы вайны. Толькі цяпер нешта робіцца па гэтай праблематыцы незалежнымі і неангажаванымі гісторыкамі. Але той «круглы стол» даказваў, што нават наша прафесура не валодала гэтай тэмай. А тыя, хто валодаў, як Літвін, уключалі ўнутранага цэнзара.

У 2000-х гадах у Інстытуце гісторыі спрабаваў аднавіцца Станіслаў Рудовіч. Гэта адзін з аўтарытэтных даследчыкаў нашай дзяржаўнасці пачатку 1917 года і БНР. Той жа Даніловіч адмовіў яму. Ён сказаў, што ягоная тэма неактуальная для Інстытута гісторыі. Нядаўна ў Інстытуце гісторыі ліквідавалі геральдычны сектар і звольнілі аднаго з найаўтарытэтнейшых геральдыстаў Аляксея Шаланду. А цяпер прапагандысты заклікаюць абапірацца на факты.

### «Узровень аргументацыі супраць нацыянальнай сімволікі выклікае ў мяне пачуццё сораму за нашу навуку»

– Дэпутат і гісторык Ігар Марзалюк, які пастаянна выказваецца супраць бел-чырвона-белага сцяга, не спецыяліст у гэтай справе. Ані ў пытанні сімволікі, ані ў гісторыі калабарацыянізму ў гады Другой сусветнай вайны. Яго сфера зацікаўлення як гісторыка – перыяд Сярэднявечча. Таму тут ён выступае, як прапагандыст таварыства «Веды». Казаць пра тое, што ён глыбока ведае тэму, абсалютна не прыходзіцца. Калі ён як медыявіст выказваецца па гэтай тэме, то ён толькі паказвае сваю прафесійную непрыдатнасць і палітычную ангажаванасць.

Або возьмем Даніловіча *(былы дырэктар Інстытута гісторыі Акадэміі навук, рэктар Акадэміі кіравання пры прэзідэнце. – **Рэд.**)*. Ён абараняў дысертацыю па тэме Заходняй Беларусі, і мушу сказаць, што яна была някепская. Але тое, што ён кажа на цяперашняй пасадзе, яго ўзровень аргументацыі, – гэта выклікае ў мяне пачуццё сораму за нашу навуку.

Гісторык Павел Церашковіч згадаў калісьці гістарычны факт з нямецкай гісторыі, калі ў адной федэральнай зямлі кароль забараніў Канстытуцыю. Сем прафесараў мясцовага ўніверсітэта выступілі супраць гэтага. Кароль тады пазбавіў іх працы і выслаў за межы дзяржавы. Частка ж прафесуры падтрымала тады свайго суверэна. І што мы бачым? Пра іх ніхто нічога не ведае. А ў гонар сямёх герояў, якія выказаліся супраць аўтарытарнага рашэння, стаіць помнік.

Вельмі хутка стане зразумела, хто лузер. Ход гісторыі паказвае, што лузерамі становяцца тыя, хто на баку няпраўды і несправядлівасці. Так было заўсёды. Праўда ўсё адно пераможа. Не самыя горшыя гісторыкі паказалі сваю несумленнасць і недальнабачнасць. Нават чыста рацыянальна яны зрабілі не тое каб памылку, яны паставілі крыж на сваёй навуковай кар'еры.

### «Да лета 1944 года нацысты забаранялі выкарыстоўваць бел-чырвона-белы сцяг»

– Прапагандысты кажуць, што бел-чырвона-белая сімволіка шырока выкарыстоўвалася нацыяналістамі ў гады акупацыі. Слухайце, яна да лета 1944 года была ўвогуле не прызнана нацысцкім рэжымам. Ёсць у нямецкіх архівах дакументы, а ў нашым Нацыянальным архіве ёсць копіі тых дакументаў, і там выразна паказана, што ані адміністрацыя Остлянда, ані ведамства Розенберга не дазвалялі афіцыйна выкарыстоўваць гэтую сімволіку ў Беларусі. Тое, што бел-чырвона-белыя сцягі і герб «Пагоня» выкарыстоўваліся падчас святаў, прычым такіх святаў, якія і сёння застаюцца «чырвонымі днямі» ў календары, як «Дажынкі» і 1 Мая, – гэта ініцыятыва Вільгельма Кубэ, які гэта дазволіў. Але потым была рэзкая рэакцыя з Рыгі і Берліна. Тым не менш сімволіка гэтая выкарыстоўвалася толькі падчас гэтых святаў.

### «Заявы, што пад гэтым сцягам паліліся вёскі, знішчаліся мірныя жыхары, абсалютна не вытрымліваюць ніякай крытыкі»

– Заявы, што пад гэтым сцягам паліліся вёскі, знішчаліся мірныя жыхары, абсалютна не вытрымліваюць ніякай крытыкі. Ідзе падмена паняццяў, нібыта на Віцебшчыне, усходняй Смаленшчыне паліцэйскія фарміраванні выкарыстоўвалі бел-чырвона-белыя сцягі. Гэта абсалютна не адпавядае рэчаіснасці. Там дзейнічала брыгада Камінскага, і яны выконвалі свае карныя аперацыі пад расійскім трыкалорам.

Да агульнай мабілізацыі ў чэрвені 1944 года і пачатку фарміравання вайсковых частак Беларускай Краёвай Абароны бел-чырвона-белая сімволіка не выкарыстоўвалася ў карных аперацыях паліцэйскіх батальёнаў. Сцвярджаць, што дапаможная паліцыя, якая дзейнічала пры чыгунцы або пры паліцыі, што яна, маўляў, мела нарукаўнікі з бел-чырвона-белымі колерамі, таксама нельга. Гэтая тэма проста не даследавана.

### «У савецкі час нацыянальная сімволіка адусюль вытраўлялася»

– Падчас акупацыі бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоня» карысталіся попытам у моладзі. І ўжо пасля вайны савецкая ўлада была вымушана на гэта рэагаваць. Таму на плакатах у 1944–1945 гадах ужо пачаў з'яўляцца беларускі арнамент. Бо ў моладзі ўжо было засведчана, што Беларусь – гэта не Расія. Яны забаранялі сцяг і герб, але былі вымушаны дазваляць іншую сімволіку ў выглядзе арнаменту, які потым выкарысталі і на сцягу БССР.

Нацыянальная сімволіка ў савецкі час адусюль вытраўлялася. Нельга было публічна ўзгадваць пра бел-чырвона-белы сцяг. Быў такі Сцяпан Пачанін, намеснік дырэктара Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ. У сваёй манаграфіі 1977 года «Историей обреченные» ён напісаў, што бел-чырвона-белага сцяга на Усебеларускім з'ездзе 1917 года не было. Ён спасылаўся на тагачасную бальшавіцкую газету і сфальсіфікаваў факты. Ён напісаў, што там выкарыстоўваўся пунсова-блакітны сцяг нявысветленай канфігурацыі. І гэта гуляла амаль да 1990-х гадоў: маўляў, на Усебеларускім з'ездзе не было бчб-сцяга. Але тое, што ён там быў, – гістарычны факт. І тое, як яны з ім змагаліся нават праз 60 год пасля з'езда, шмат пра што сведчыць.




**Выява бел-чырвона-белага сцяга на шэрым кардоне, знойдзеная падчас рэканструкцыі Купалаўскага тэатра ў 2013 годзе. Адмыслоўцы не выключаюць, што такія карткі выкарыстоўвалі падчас галасавання дэлегаты Першага Усебеларускага з'езда ў снежні 1917-га.**

### «Пра нейкі новы сцяг не можа быць і гаворкі»

– Традыцыі бел-чырвона-белага сцяга больш за 100 гадоў. Ён на 40 гадоў старэйшы за чырвона-зялёны, які зацвердзілі ў 1952 годзе. Пра нейкі новы сцяг не можа быць і гаворкі.

У 1991 годзе, калі прымалася рашэнне пра сімволіку, нехта прапаноўваў выкарыстоўваць выяву зубра: маўляў, «Пагоня» ваяўнічая, а мы міралюбівыя.

Але ёсць традыцыя, гэтыя сімвалы нішчылі, тапталі, палілі, аблівалі брудам, хацелі запляміць, а яны жывуць і лунаюць у небе. І з гэтым ужо нічога не зробіш. Народ ужо не прыме іншы сцяг. Вяртаць нашыя сімвалы трэба не праз рэферэндум, а праз галасаванне ў парламенце. Гэтае рашэнне павінна быць зацверджана моцным легітымным сродкам.

### «Усё найлепшае ў нашай гісторыі звязана з незалежнасцю. А яна ўзнікла пад бел-чырвона-белым сцягам»

– Гэта сімвал незалежнасці Беларусі. Гэтая ідэя не была рэалізавана ў 1918 годзе, але тыя, хто гуртаваўся каля бел-чырвона-белага сцяга, атаясамлівалі Беларусь з незалежнасцю. Ніхто не скажа, што людзі пад гербам і сцягам БССР шчыра думалі, што яны жывуць у вольнай краіне.

Пад бел-чырвона-белым сцягам сфарміравалася ідэалогія незалежнай беларускай рэспублікі. Па-другое, сфарміравана традыцыя, што Беларусь павінна быць дэмакратычнай краінай з незалежнымі інстытутамі дзяржаўнай улады ў класічным еўрапейскім кантэксце. Беларусь прызналі ў свеце суверэннай пад гэтым сцягам і гербам «Пагоня». Пад гэтым сцягам мы ўпершыню выступілі на зімовай Алімпіядзе ў 1992 годзе. Пад гэтым сцягам сфарміравалася беларускамоўная адукацыя, якая павінна была за 10 гадоў зрабіць нашу краіну ў большасці беларускамоўнай. Была праграма паэтапнай беларусізацыі. Але потым усё было зламана, каб дагадзіць рэваншысцкім сілам. А змена сімволікі ў 1995 годзе была спробай знішчыць наш суверэнітэт, зрабіць з Беларусі падмурак савецкай ментальнасці, дзеля таго каб прывесці да ўлады ў новай саюзнай дзяржаве таго, хто імкнуўся павярнуць гадзіннік назад. Усё, што ў нас ёсць пазітыўнага, звязана з незалежнасцю. А яна не можа ўспрымацца без такіх нацыянальных сімвалаў, як бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоня».

### «Я шчаслівы, што людзі выйшлі пад бел-чырвона-белым сцягам»

– Сцяг Дуж-Душэўскага пасля 1917 года за лічаныя месяцы разляцеўся паміж беларусамі. Бчб-стужкі былі знакам беларускіх вайскоўцаў ад Балтыйскага флоту да Румынскага фронту. Без загадаў, без дырэктыў. Усе, хто атаясамліваў сябе з беларусамі, мелі за гонар насіць такія стужкі. Гэта паказчык таго, што гэтая сімволіка стала народнай.

Ёсць глыбокі сэнс у тым, што сённяшнія нашы людзі, якія выступаюць за сумленныя выбары, узялі за свае сімвалы «Пагоню» і бел-чырвона-белы сцяг. Для кагосьці гэта было нечакана, але гэта абсалютна справядліва, і я абсалютна шчаслівы. Нават не як гісторык, а як грамадзянін сваёй краіны. Да гэтага нацыянальная сімволіка не была шырока папулярнай, ёю цікавілася збольшага моладзь. Але пара жнівеньскіх дзён перавярнулі абсалютна ўсё. Я ўжо ўпэўнены, што нічога з гэтым не зробіш. Яна ўжо ўсталявалася.

Мы з Віктарам Бабарыкам выраслі на адной вуліцы і з дзяцінства ведаем адзін аднаго. Калі пачыналася выбарчая кампанія, то ён казаў, што час яшчэ не прыйшоў, што патрэбны цэлы прэзідэнцкі тэрмін, каб потым вынесці пытанне сімволікі на ўсеагульнае абмеркаванне. Але падзеі паказалі, якія нацыянальныя сімвалы падтрымлівае народ. Ходу назад ужо не будзе.



ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

з Алесем СІВЫМ

# Бумеранг для Дзмітрыя Баскава

Як вядома, днямі незалежная дысцыплінарная калегія Міжнароднай федэрацыі хакея дыскваліфікавала старшыню федэрацыі хакея Беларусі **Дзмітрыя Баскава** на 5 гадоў.

Рашэнне было прынята пасля дзесяці месяцаў расследавання, праведзенага калегіяй, якая ўстанавіла, што Баскаў парушыў Кодэкс паводзінаў Міжнароднай федэрацыі хакея.

Нагадаем, што 11 лістапада мінулага года ў Мінску на так званай Плошчы Перамен невядомыя напалі на мясцовага жыхара **Рамана Бандарэнку**, які абараняў бел-чырвона-белыя стужкі, збілі яго і звезлі на мікрааўтобусе. У выніку хлопец, якога затым з РУУС даставілі ў бальніцу, памёр.

Пазней у СМІ былі апублікаваны матэрыялы, паводле якіх некаторыя прыйшлі да высновы: чалавек, які напаў на Бандарэнку, вельмі падобны на шматразовага чэмпіёна свету па тайскім боксе і кікбоксінгу **Дзмітрыя Шакуту**. Акрамя яго на відэа быў зафіксаваны мужчына, падобны на кіраўніка Беларускай федэрацыі хакея **Дзмітрыя Баскава.** Гэта стала нагодай для таго, каб міжнародныя хакейныя структуры пачалі расследаванне.

Зараз дысцыплінарная калегія заявіла аб наяўнасці дастатковых доказаў таго, што спартыўны функцыянер спрабаваў «*наўпрост аказваць уплыў на іншых, з тым каб яны падтрымлівалі ўрад Беларусі, а таксама пагражаў і дыскрымінаваў беларускіх спартсменаў з-за іх палітычных перакананняў*».

Таксама вызначана, што «*Баскаў злоўжываў сваім становішчам прадстаўніка Федэрацыі хакея, каб падтрымаць Аляксандра Лукашэнку, парушыўшы артыкул 5 Алімпійскай хартыі*».

У выніку, згодна з рашэннем дысцыплінарнай калегіі, пачынаючы з 10 верасня гэтага года Баскаў на 5 гадоў адхілены ад усёй дзейнасці, якая звязана з хакеем.

Але нават пасля гэтага нашы спартыўныя чыноўнікі планавалі абскарджваць рашэнне Міжнароднай федэрацыі хакея ў Спартыўным арбітражным судзе ў Лазане.

«*У бліжэйшы час будзе прынята рашэнне аб мэтазгоднасці абскарджвання пастановы Міжнароднай федэрацыі хакея ў дачыненні да старшыні ФХБ Дзмітрыя Баскава*, – выдала федэрацыя заяву практычна адразу пасля з'яўлення рашэння дысцыплінарнай калегіі. – *Яго абранне на пасаду старшыні нацыянальнай федэрацыі хакейнай грамадскасцю Беларусі было легітымным...*"

Натуральна, яны з задавальненнем пагадзіліся б на тое, каб «справа Баскава» разглядалася ў адным з беларускіх судоў. Выкажу здагадку: у такім выпадку аматара праўладных аўтапрабегаў і гарэлкі "Прэзідэнт" не толькі цалкам апраўдалі б, але яшчэ маглі і прадстаўнікоў незалежнай дысцыплінарнай калегіі на «суткі» адправіць. Хаця б завочна. Але не той выпадак. Усё ў гэтым жыцці вяртаецца, зараз прыляцеў бумеранг і Дзмітрыю Баскаву. Не смяротна, але па адным месцы дзеўбанула.

Хаця па вялікім рахунку і без гэтай пяцігадовай дыскваліфікацыі Баскаваў павінен быў вылецець з федэрацыі як корак значна раней. За тую ганьбу, што ўбачылі балельшчыкі на няздэйным чэмпіянаце свету, калі наша зборная заняла перадапошняе месца. А пасля таго, як каманда праваліла алімпійскую кваліфікацыю і праляцела міма Алімпіяды-2022, як фанера над Парыжам, чыноўнік павінен быў сам напісаць заяву аб звальненні. Але ж зрабіў гэта толькі зараз, калі патрапіў пад санкцыі.

ПАМЯТЬ

# «Такие трагедии в памяти навсегда...»

*Мама белорусского хоккеиста Руслана Салея, который десять лет назад погиб в авиакатастрофе, рассказала о себе и внуках, которые живут в Америке.*





Напомним, что трагедия случилась 7 сентября 2011 года, за день до назначенного матча между ярославским «Локомотивом» и минским «Динамо». В том году **Руслан Салей**, который долгое время жил в Америке и играл в НХЛ, подписал контракт с ярославским клубом и вылетал в Минск вместе с новой командой на первую игру сезона.

Катастрофа произошла через несколько секунд после взлета Як-42 в аэропорту Туношна. На борту находились 45 человек, выжил только бортинженер **Александр Сизов**.

Тогда кроме Руслана Салея погибли еще два белоруса – хоккеист **Сергей Остапчук** и тренер **Николай Кривоносов**.

В Америке у Руслана осталась вдова Бетэн, дочки Алексис и Эйва, сын Сандро...

«*Этот стресс не пройдет просто так, такие трагедии в памяти навсегда*, – рассказала *kp.by* мама Руслана, **Тамара Гавриловна САЛЕЙ**. – *Во всяком случае в материнской. Вся боль от утраты осталась со мной, но сейчас хочется вспоминать только светлые моменты.*

*В остальном в моей жизни, в принципе, ничего не изменилось. Живу на даче, ращу цветы и огород. Общаюсь со своими двумя котами. Тимоша, паразит, периодически гоняет мою Фросю. Так что они меня и радуют, и огорчают одновременно.*

*От Руслана у меня остались только внуки. Дети Руслана растут, но они живут в Америке*».

Тамара Гавриловна говорит, что очень хотела бы общаться с внуками, но такой возможности нет – до Америки далеко, коронавирус...

«*Старшей Алексис уже 16, Сандро – 12, а младшей Эйве весной исполнилось 10*, – продолжает мама Руслана.. – *Она уже такая большая, хотелось бы повидаться, обняться. Тем более младшая девочка пошла в нашу породу, Салеевскую. Конституция наша. Последний раз я обнимала внуков, когда они приезжали в Беларусь на годовщину по Руслану.*

*Но я так рада, что у них всё хорошо, что они растут, развиваются.*

*Очень хочется иметь возможность подольше видеть детей. Еще когда был жив мой муж, я всегда очень хотела знать, и обсуждала это с ним, пойдет ли сын Руслана Сандро по его стопам. Будет ли заниматься хоккеем? Но вряд ли, хоть поначалу и пытался. Мне очень хотелось бы увидеть, какими вырастут дети Руслана. Будут ли они больше белорусами или американцами?*

*Понятное дело, большое влияние оказывает среда, американцы совсем другие. Но ведь и от Руслана генетически в них многое заложено. Я всё-таки надеюсь на это. Старшая дочь по конституции в нашу породу, но внешне не похожа. Сын похож на Бетэн, утонченный. Но если откровенно, мне очень хотелось бы, чтобы гены белорусов победили. Потому что мой Руслан был очень достойным белорусом*».



**Бетэн**, вдова Руслана, рассказывает о своей семье так: «*Старшей дочери было шесть лет, когда ее отец погиб, она помнит о нем больше других. Сыну было четыре, он немногое помнит, но я рассказываю ему о папе. Младшей дочке было всего пять месяцев, она почти не знает отца, но она очень на него похожа. Она настоящий подарок для нашей семьи*».

**Сергей ЗАБЛОЦКИЙ.**

ФУТБОЛ

# І гэтыя «на правільным шляху»!

*Зборная Беларусі па футболе памаладзела, але выніку ўсё роўна няма.*

У адборачнай групе да чэмпіянату свету 2022 года беларускай камандзе засталося правесці тры матчы. 8 кастрычніка зборная ў гасцях згуляе з эстонцамі, 11 кастрычніка – з Чэхіяй і 13 лістапада – з Уэльсам.

Нагадаем, што чатыры апошнія матчы беларусы прайгралі: бельгійцам – 0:8, Чэхіі – 0:1, Уэльсу – 2:3, Бельгіі – 0:1 на «дамашнім стадыёне» ў Казані. Як вядома, наша зборная не можа праводзіць гульні ў Мінску з-за патрабаванняў УЕФА аб забеспячэнні прамога авіярэйса да месца правядзення матча. А зараз арганізацыя такога пералёту немагчыма пасля скандальнай пасадкі ў Мінску рэйса Ryanair.

На гэты момант зборная займае перадапошняе месца ў групе, і аптымістычныя перспектывы практычна не праглядаюцца. Нават футбалісты гэта разумеюць.





«*У Беларусі мы цяпер як казлы адпушчэння*, – выказаўся абаронца зборнай **Мікалай Золатаў**. – *Ніхто за нас не балее, нас падтрымліваюць лічаныя адзінкі. Нават такім вынікам, паражэннем ад бельгійцаў 0:1, мы многім сапсавалі настрой. Будуць казаць, што яны ўсё роўна прайгралі, што сапернік гуляў напаўсілы.*

*Так, адсутнасць выніку – гэта дрэнна. Але такімі гульнямі мы будзем паступова вяртаць войска балельшчыкаў. Спадзяюся, надыдзе час, калі людзі будуць да нас хоць бы нейтральна ставіцца, а потым пачнуць і падтрымліваць*».

«*Каманда будуецца ў нас, яна новая*, – выказаўся і галоўны трэнер каманды **Георгій КАНДРАЦЬЕЎ**. – *У наранніі з сакавіцкімі матчамі яна абнавілася працэнтаў на восемдзесят, памаладзела. І паказвае даволі няярэнны футбол. Я думаю, што мы на правільным шляху*».

Цікава, што пасля правалу хакейнай зборнай Беларусі ў алімпійскай кваліфікацыі галоўны трэнер беларускай каманды **Крэйг Вудкрафт** таксама заявіў, што «*развіццё хакея ў Беларусі ідзе правільным шляхам*».

А вось у выказваннях балельшчыкаў на форумах менш аптымізму: «*Гэта міні-копія таго шляху, па якім ідзе ўся краіна... Правільны шлях – шлях развіцця, стварэння. Як сэрца падказвае. А па ўказцы – шлях у прорву.*

*Будаўнікі камунізму таксама будавалі-будавалі, а так нічога і не набудавалі. Хаця каму патрэбна, той свой кавалак адхапіў і на шляху да камунізму. Як ужо людзям надакучыла гэтае пастаяннае будаўніцтва!*»

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

УСМІХНІЦЕСЯ...

***

– Запомні, хлопец: жыццё – гэта не сёмга, не асятрына і не чырвоная ікра. Жыццё – гэта кілька ў тамаце, максімум – хек.

– З кім гэта ты, Пятровіч, размаўляеш?

–Ката жыццю вучу.

***

Калі ты лічыш, што табе не шанцуе, падумай пра іх: прачытаў у газеце, што ў Маскве жонка з каханкам выпадкова селі ў таксі да мужа.

***

– Мілы, адчыні мне бутэлечку мінералкі. У мяне сіл няма...

– А ўчора на карпаратыве вырывала ў мяне з рук бутэльку шампанскага з крыкам: "Дарогу прафесіяналу!"

***

Студэнтаў, якія зладзілі ў Дзень здароўя флэшмоб – калектыўнае адцісканне на плошчы, забралі ў міліцыю. А бухалі б, як звычайна, ніхто і не заўважыў бы.

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 326-68-71
Рэкламны аддзел (017) 363-66-04
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ